НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Постановление Совета Министров Республики Беларусь N 589*

# Об установлении порядка купли-продажи квартир (домов)

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

14. Жилые дома, не завершенные строительством, и дома, подлежащие реконструкции, после отселения всех проживающих в них граждан приобретаются в порядке, предусмотренном Временным положением, при условии завершения в дальнейшем их строительства (реконструкции) и использования по назначению.

15. Квартиры, относящиеся к государственной собственности, могут быть выставлены на аукционе только при отсутствии покупателей, имеющих право на их приобретение в соответствии с пунктами 8 и 25 Временного положения.

16. В случае продажи квартир на аукционах покупателями их могут быть граждане Республики Беларусь, независимо от проживания в данном населенном пункте и нуждаемости в улучшении жилищных условий, иностранные граждане и лица без гражданства, а также юридические лица. При этом иностранные граждане и лица без гражданства могут приобретать квартиры в собственность, если они имеют на территории республики постоянное место жительства и законный источник существования, а юридические лица — если они зарегистрированы в качестве таких на территории Республики Беларусь. В случаях продажи квартир на аукционах в г.Минске покупателями их могут быть граждане Республики Беларусь, которые постоянно проживают в г.Минске, и юридические лица, зарегистрированные на его территории.

17. Порядок и условия продажи квартир на аукционах определяются соответствующими правилами.

18. Средства, поступающие от продажи квартир в домах, принадлежащих местным Советам народных депутатов, зачисляются в местный бюджет, а в домах, находящихся в ведении государственных предприятий, объединений и организаций, колхозов, — в их доход.

Указанные средства используются в первую очередь на жилищное строительство, реконструкцию и ремонт жилищного фонда.

19. Квартиры, приобретенные гражданами в собственность в домах государственного и общественного жилищного фонда, в установленном порядке исключаются из соответствующих фондов и включаются в состав индивидуального жилищного фонда.

20. Владельцам квартир, приобретенных в собственность, в установленном порядке выдаются технические паспорта и домовые книги.

21. Квартиры, приобретенные в соответствии с настоящим Временным положением, должны использоваться для постоянного проживания граждан.

22. Споры, связанные с куплей-продажей квартир, разрешаются судом.

**Порядок и условия продажи гражданам квартир в домах государственного жилищного фонда**

23. Для приобретения в собственность квартиры гражданин подает заявление в исполком местного Совета народных депутатов по месту жительства или на предприятие, в объединение, организацию, которым принадлежит квартира.

24. Исполкомы местных Советов народных депутатов, предприятия, объединения, организации ведут учет граждан, желающих приобрести в собственность квартиры. При этом очередность их формируется с учетом времени нахождения на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий.

25. Первоочередное право на приобретение в собственность квартир имеют граждане, состоящие на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий, и прежде всего пользующиеся в соответствии с законодательством правом первоочередного получения жилых помещений в домах государственного и общественного жилищного фонда либо первоочередного вступления в жилищно-строительный (жилищный) кооператив.

Вне очереди квартиры приобретаются гражданами, которые в соответствии с законодательством пользуются правом внеочередного получения жилых помещений в домах государственного и общественного жилищного фонда либо внеочередного вступления в жилищно-строительный (жилищный) кооператив.

26. Решения о продаже в собственность квартир, принадлежащих исполкомам местных Советов народных депутатов, предприятиям, объединениям, организациям, принимаются соответственно этими исполкомами либо предприятиями, объединениями, организациями.

27. Продажная стоимость квартир, указанных в пунктах 3.1 и 3.2 Временного положения, устанавливается оценочными комиссиями, образуемыми исполкомами местных Советов народных депутатов, предприятиями, объединениями и организациями. В работе этой комиссии вправе принимать участие гражданин, приобретающий квартиру в собственность.

Продажная стоимость этих квартир определяется в действующих на момент продажи ценах с учетом их потребительских качеств за вычетом стоимости износа.

Потребительские качества квартиры определяются в соответствии с постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 25 ноября 1992 г., N 710 "О порядке оценки стоимости жилья с учетом его потребительских качеств" (СП Республики Беларусь, 1992 г., N 33, ст. 603).

Износ многоэтажных домов устанавливается исходя из норм амортизационных отчислений на полное их восстановление, утвержденных постановлением Совета Министров СССР от 22 октября 1990 г., N 1072 (постановление Совета Министров БССР от 3 января 1991 г., N 4), а домов усадебного типа и незаселенных домов, подлежащих реконструкции, — согласно правилам оценки физического износа жилых зданий ВСН-58-86 (Р), введенным в действие приказом Министерства жилищно-коммунального хозяйства БССР от 3 сентября 1987 г., N 119.

Оценочная комиссия о результатах оценки стоимости продаваемой квартиры составляет акт установленной формы, который утверждается исполкомом местного Совета народных депутатов или предприятием, объединением, организацией, в ведении которых находится жилищный фонд.

28. Квартиры в домах, относящихся к государственной собственности, указанные в пункте 3.3, продаются по цене, определяемой соглашением сторон, а квартиры, указанные в пункте 3.4, — на условиях, установленных в пункте 31 Временного положения.

29. Выплата гражданами стоимости квартир может производиться одновременно или в рассрочку на условиях договора.

**Условия продажи юридическим лицам квартир в домах государственного жилищного фонда**

30. Граждане, желающие приобрести квартиры в собственность в домах, не завершенных строительством, и домах, подлежащих реконструкции, могут создавать товарищества индивидуальных застройщиков при содействии исполкомов местных Советов народных депутатов, государственных предприятий, объединений и организаций.

31. Условия договора купли-продажи определяются соглашением сторон. При этом продажная стоимость не завершенных строительством многоквартирных жилых домов устанавливается с учетом фактических затрат заказчика в действующих на момент продажи ценах.

Квартиры, указанные в пункте 3.3 Временного положения, продаются на условиях, определенных постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 9 декабря 1992 г., N 741 "О строительстве жилых домов и других объектов социального назначения для продажи" (СП Республики Беларусь, 1992 г., N 34, ст. 628).

**Условия продажи квартир в домах, не относящихся к государственному жилищному фонду**

32. Квартиры, указанные в пункте 3.3 Временного положения, продаются на условиях, определенных постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 9 декабря 1992 г., N 741 "О строительстве жилых домов и других объектов социального назначения для продажи" (СП Республики Беларусь, 1992 г., N 34, ст. 628).

33. Условия договора купли-продажи объектов, предусмотренных в пунктах 3.4 — 3.6 Временного положения, определяются соглашением сторон. При этом продажная стоимость не завершенных строительством многоквартирных жилых домов устанавливается с учетом фактических затрат заказчика в действующих на момент продажи ценах.

*Уладзімір ГАНЧАРЫК:*

# "Што гэта за парламент, які ў лёсавызначальны для краіны час не жадае працаваць?"

**Хто з нас не памятае, з якім драматызмам абмяркоўвалі народныя дэпутаты пытанне пра магчымае правядзенне ўсенароднага рэферэндуму аб даверы Вярхоўнаму Савету. Як вядома, большасць тады прагаласавала супраць. Праўда, на той жа сесіі Вярхоўны Савет прыняў рашэнне аб тым, што новыя выбары павінны адбыцца раней тэрміну — у сакавіку 1994 года. Але ці будзе яно выканана? Як паказвае апошні час, вельмі і вельмі многія зараз сумняваюцца, што дэпутаты стрымаюць сваё слова. А прафсаюзы рэспублікі нават пачалі акцыю, каб падштурхнуць парламент да выканання свайго рашэння. Аднак мы добра ведаем нашых сучасных палітыкаў — яны вельмі часта даюць словы, але яшчэ часцей забіраюць іх назад. Няўжо прафсаюзы рэспублікі думаюць, што сваёй акцыяй яны дасягнуць большага, чым БНФ у свае лепшыя часы? З гэтым пытаннем палітычны аглядальнік "Народнай газеты" Сяргей Плыткевіч звярнуўся да старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзіміра Ганчарыка:**

— Наша апытанне выконвае дваякую задачу: па-першае, мы хочам ведаць думку менавіта членаў прафсаюзаў, па-другое, атрымаць іх падтрымку. Вярхоўнаму Савету цяжэй будзе змагацца не з нейкай абстрактнай колькасцю выбаршчыкаў, а з канкрэтнымі працоўнымі калектывамі. Вось папярэднія даныя па некаторых заводах: барысаўскі завод "Гідраўзмацняльнік" — 920 чалавек падпісалі, шклозавод "Нёман" — 949. Гэта ж цэлыя калектывы! Як з імі не лічыцца? Таму Вярхоўны Савет павінен апраўдаць сваю заяву, зробленую ў кастрычніку мінулага года. І апошнія падзеі ў Беларусі ўсё больш і больш пераконваюць нас, што пазіцыя ў прафсаюзаў рэспублікі правільная. Яе, дарэчы, падтрымаў шэраг палітычных партый. Супраць выступіў Рух за сацыяльную справядлівасць і дэмакратыю, прычым з такой матывацыяй: маўляў, Вярхоўны Савет нарэшце пачаў выказваць "признаки благоразумия". Цікавая такая фармулёўка. Але іх можна зразумець — яны хочуць замяніць толькі Шушкевіча, а мы лічым, што наогул патрэбен перагляд палітыкі, перагляд эканамічнай канцэпцыі. І гэта павінен зрабіць новы Вярхоўны Савет.

**— Такім чынам, Уладзімір Іванавіч, мы бачым, што прафсаюзы заняліся чыста палітычнай барацьбой...**

— Не зусім. Пакуль што наша апытанне — гэта ўнутрыпрафсаюзная акцыя. А вось калі атрымаем канчатковыя вынікі, тады можна будзе гаварыць аб палітычнай барацьбе, тады мы канчаткова вызначым сваю пазіцыю і будзем яе адстойваць.

**— Уладзімір Іванавіч, але ж існуе і такое меркаванне, што, пачаўшы апытанне ў працоўных калектывах, вы зрабілі крок назад, у той час калі на кожным прадпрыемстве існавалі парткамы, якія праводзілі там лінію кіруючай партыі. Зараз такой дзейнасцю заняліся прафсаюзы. Вы не баіцеся, што пасля вас на заводы пойдуць камуністы ці прадстаўнікі іншых партый? З другога боку, некаторыя палітыкі западозрылі кіраўніцтва прафсаюзаў у тым, што яно дамовілася з урадам і праводзіць гэтую акцыю з яго ведама.**

— Я лічу такія падазрэнні недарэчнымі. Як вядома, новы парламент будзе выбіраць як свайго старшыню, так і старшыню ўрада. Больш таго, менавіта парламент павінен адказваць за палітыку ўрада і ўсе яго дзеянні. І гэта супрацьстаянне паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі, якое мы бачым і ў Беларусі, і ў Расіі, — з'ява ненармальная. Але паглядзіце, што ў нас зараз адбываецца. Сёмага верасня ў Маскве павінна было быць падпісана чарговае пагадненне, якое закранула б асновы дзяржаўнасці Беларусі. Да апошняга імгнення (нават і зараз, пасля пераносу сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД) ніхто не ведае, якім будзе гэтае пагадненне. Наш Вярхоўны Савет — падкрэсліваю, Вярхоўны! — знаходзіцца на вакацыях. Гэта правільна ці не?

**— Зразумела, не.**

— Вось мы і патрабуем, каб сесія Вярхоўнага Савета пачала сваю работу, каб дэпутаты абмеркавалі магчымае пагадненне і прынялі наконт яго канчатковае рашэнне. А пытанняў узнікае вельмі многа. Зараз гавораць, што мы вернемся ў рублёвую зону. А дзе гарантыя, што прадпрыемствы будуць своечасова атрымліваць зарплату? Калісьці "зайчык" уводзілі, бо не хапала рублёў расійскіх, што будзе зараз? Наш урад увесь час хваліўся, што тавары ў Беларусі таннейшыя, чым у іншых дзяржавах СНД. Але мы паглядзелі статыстыку: па тэмпах росту цэн, калі параўноўваць са снежнем 1991 года, Беларусь на другім месцы пасля Украіны. Што нас чакае наперадзе? Таму і павінен у гэтыя лёсавызначальныя для Беларусі дні яе вышэйшы орган працаваць. Але дэпутаты нашы адпачываюць, а потым збяруцца праз месяц-два і, калі стане жыць яшчэ горш, заявяць: мы тут ні пры чым, гэта Шушкевіч ці Кебіч падпісвалі тыя пагадненні. Хіба гэта нармальна?

Мы прааналізавалі ход выканання дзяржаўных праграм, якія прымаліся нашым Вярхоўным Саветам і ўрадам. Ні адна з іх у поўным аб'ёме не выконваецца, ні адна з іх сур'ёзнага ўплыву на развіццё народнай гаспадаркі не дала. Другое, не спыняецца тэндэнцыя абвалу — навуковага, прамысловага, пагаршаецца сацыяльна-эканамічнае становішча насельніцтва. І мы зрабілі адназначны вывад: палепшыць жыццё людзей на аснове цяперашніх падыходаў немагчыма, патрэбна карэкціроўка курсу эканамічных рэформ, стратэгіі і тактыкі ў дзейнасці і Вярхоўнага Савета, і ўрада рэспублікі.

**— Тым не менш вы падтрымліваеце сувязь з кіраўніцтвам сённяшняга ўрада, вось і інтэрв'ю наша пачалося крышачку пазней, бо вы размаўлялі па тэлефоне з Вячаславам Кебічам...**

— Сапраўды, прамая сувязь у нас існуе, і пытанні мы абмяркоўваем самыя розныя. І калі б я меркаваў аб нашых узаемаадносінах толькі па гэтых размовах, то мог бы з упэўненасцю сказаць, што ўрад прыслухоўваецца да думкі прафсаюзаў, што паміж намі ёсць пэўнае ўзаемаразуменне. Аднак калі паглядзець на практычныя справы, то, на жаль, усё атрымліваецца інакш...

Што датычыцца сённяшняй размовы, то гаварылі мы аб мемарандумах урада Беларусі Міжнароднаму валютнаму фонду і Сусветнаму банку, якія надрукаваны ў "Нацыянальнай эканамічнай газеце". Не ведаю, як яны там з'явіліся, але такім чынам наш урад раскрыў свае карты. І мы ўбачылі, што палітыка яго будзе не самастойнай, яна будзе праводзіцца пад дыктоўку гэтых дзвюх устаноў. Плануецца рэзкае скарачэнне сацыяльных выплат, у тым ліку і сем'ям з дзецьмі. Зноў падаражэюць хлеб, малако, узрастуць тарыфы на камунальныя паслугі. І я папярэдзіў Вячаслава Францавіча, што мы будзем выказваць нязгоду з такой палітыкай, калі жыццё людзей пагаршаецца і ніякіх мер па стымуляванню вытворчасці не прымаецца. Мы ідзём у тупік.

**— Але дзе яно, выйсце з тупіка?**

— Па-першае, трэба зняць усе эканамічныя бар'еры паміж Беларуссю і іншымі дзяржавамі СНД. Па-другое, толькі перагледзеўшы падатковую палітыку і палітыку крэдытавання, мы зможам стымуляваць вытворчасць. Па-трэцяе, трэба тэрмінова правесці рэвізію ўсіх міжнародных кантрактаў, дагавораў, яны павінны працаваць на карысць рэспублікі, а не на нейкія асобныя структуры. Па-чацвёртае, трэба ісці па шляху прыватызацыі. Можна працягваць і далей, але галоўнае ў тым, што і ўрад, і Вярхоўны Савет Беларусі павінны быць выканаўчай і заканадаўчай уладамі сапраўды незалежнай дзяржавы. Сёння гэтага няма, сёння наша кіраўніцтва кідаецца з адной крайнасці ў другую, а народ не ведае, якая будучыня яго чакае. Таму прафсаюзы і прынялі рашэнне: так далей жыць нельга. Калі сённяшнія кіраўнікі не могуць вывесці рэспубліку з крызісу, то павінны гэта зрабіць новыя людзі. Хто? Гэта вызначыць сам народ. На выбарах у сакавіку наступнага года.

*Горка*

# Інвалід прыняў рашэнне. Апошняе

Сапраўды, апошняй для інваліда вайны М.Зарубіцкага стала граната РГД-42. Дзе яе здабыў сямідзесяцідвухгадовы жыхар Сянно, установіць ужо не ўдасца, мабыць, ніколі. А вось для якіх мэт — вядома дакладна. З дапамогай гэтай зброі састарэлы чалавек звёў апошнія рахункі з жыццём. Дарэчы, зрабіць гэтак жа ён запрашаў і сваю жонку.

Да самазабойства ветэрана, які хварэў на астму, падштурхнуў дэфіцыт медыкаментаў. Ва ўсялякім разе, ён неаднаразова гаварыў суседзям, знаёмым, што няма сіл трываць мукі, якія наступаюць у час астматычнага ўдушша. За некалькі дзён да чорнага часу яго бачылі ў раённай паліклініцы. Але, відаць, і ў гэты раз медыкі не змаглі нічым дапамагчы інваліду. І тады ён прыняў рашэнне. Апошняе.

**Аляксандр ЛАЗЮК.**

*Этот тернистый путь к рынку...*



# Улыбнется ли фортуна с экрана компьютера?

Андрей АРШАНСКИЙ,
Сергей ГРИЦ (фото)

**На состоявшейся недавно в Минске ярмарке рабочих вакансий посетителей было много. Во Дворце культуры железнодорожников, где она проводилась, пришли люди, которые хотели найти работу, получить консультацию по вопросам, связанным с профориентацией. Они не обманулись в своих ожиданиях — мероприятие было организовано так, что человек мог быстро получить всю необходимую информацию.**

Наибольший интерес посетителей вызвала информация о свободных рабочих местах, о вакансиях для специалистов и служащих. Операторы компьютеров работали без отдыха, нажимая клавиши и высвечивая на мониторах нужную информацию. Безработица давно стала реальностью. На учете в Минском городском центре занятости населения на 1 августа состояло 8684 человека. Благодаря налаженной системе поиска и предложения рабочих мест с начала года трудоустроено 2517 человек.

Какие же категории из числа зарегистрированных безработных наиболее многочисленны? Это прежде всего так называемые высвобожденные, уволенные в связи с сокращением штатов или реорганизацией предприятия. Они составляют 61,3 процента от всех зарегистрированных — 5321 человек. Второе и третье места в этом списке принадлежат уволенным по собственному желанию и выпускникам профессиональных, средних специальных и высших учебных заведений (1051 и 955 человек соответственно).

На первом этаже посетитель мог получить информацию о требующихся рабочих руках на заводах и предприятиях города, о вакансиях по республике. Труднее найти работу служащим — а именно возле секций с вакансиями для этой категории стояло больше всего людей. Поднявшись на второй этаж, желающие могли побеседовать с представителями заводов и предприятий.

Устроители ярмарки вакансий стремились охватить весь круг вопросов в области занятости населения. Те, кто только начинает свой профессиональный путь, могли получить консультацию по выбору профессии, узнать адреса и ознакомиться с условиями учебы на подготовительных отделениях учебных заведений города. Консультации по юридическим вопросам, по рынку труда, как самому организовать предпринимательскую деятельность — далеко не полный перечень того, что могли получить пришедшие на ярмарку. Среди них было много молодых людей. Это и понятно — у тех, кто сейчас заканчивает обучение, есть все шансы пополнить армию безработных... Неустроенность становится постоянным источником внутренних конфликтов, напряженности в семье. Быть может, с помощью таких ярмарок хотя бы некоторые получат свою путевку в жизнь.

*Резонанс*

# Национальный банк уточняет, но... не опровергает

**"За два дня они вырыли могилу для не успевшей родиться национальной валюты..." — так назывался материал, опубликованный в "Народной газете" 18 августа 1993 года, в котором шла речь о том, что валютная биржа в Беларуси, по мнению интервьюируемых, действует не на благо рыночных реформ, а, скорее, вопреки им, для потреб спекулянтов. Во всяком случае, на эту мысль участников беседы наталкивали результаты первых торгов валютой.**

**После публикации материала в редакцию стали звонить банковские работники, предприниматели, руководители предприятий, ученые-экономисты, но не руководители биржи. Большинство из них соглашались с авторами статьи в том, что на валютной бирже "что-то не так". Среди обратившихся с просьбой о предоставлении слова на страницах газеты были и представители Национального банка, в адрес которого раздавались упреки, что он пустил дело на самотек.**

**Обозреватель газеты Владимир Самойлов встретился с исполняющим обязанности начальника валютно-экономического управления банка Владимиром Савенком.**

— В статье сказано, что валютная биржа была зарегистрирована две недели назад. Это не совсем так. Она была зарегистрирована в марте и работала с валютами стран СНГ, а с 1 августа стала торговать СКВ.

И тут действительно произошел большой скачок курса доллара, который взволновал многих — 3885 рублей. На следующий день к нам стали обращаться банки, предприятия с просьбами, даже требованиями отменить результаты биржевых торгов. Мы установили курс на уровне 2300 рублей, посчитав прежний спекулятивным. В данном случае воспользовались своим правом, которое нам предоставляет Закон о Национальном банке Республики Беларусь.

**— По меньшей мере странная ситуация. Если мы говорим, что рынок определяет цену всего, в том числе и валюты, то почему Национальный банк внеэкономическим, можно сказать, административным способом навязывает свое решение?**

— Было понятно, что тот биржевой курс искусственный, нереальный. Кроме того, это вина, не будем скрывать, наших коммерческих банков, которые еще не научились работать на бирже, а также наших предприятий, бездумно подающих заявки, в которых пишут, что готовы купить валюту по любому курсу.

**— Но ведь только в дурном сне может присниться, что курс за одни торги поднимется на тысячу и более рублей. Нигде в мире такое просто недопустимо.**

— Вы совершенно правы. И тут вина дилеров. Хотя предприятия, желающие купить валюту, не установили предельного уровня, что делать совершенно необходимо, дилеры в такой экстремальной ситуации должны были срочно связаться со своими клиентами и согласовать свои действия.

**— Мне кажется, что это азбука биржевой деятельности. Во всем мире связь между дилером и клиентом — обязательное условие. И тут, согласитесь, правы мои собеседники —бизнесмены, утверждая, что на бирже работают непрофессионалы. Но давайте вернемся к Национальному банку. Ведь он не должен ограничиваться ролью стороннего наблюдателя.**

— Согласен. Считаю, что нельзя снимать вину и с нашего банка, так как он недостаточно активно участвует в биржевых торгах. Но все же утверждать, что этот курс обеднил наш народ, нельзя, хотя бы потому, что было куплено только полмиллиона долларов. Приобрели валюту всего несколько предприятий, они на нее закупят товар, который действительно будет в полтора-два раза дороже. Но это не значит, что у нас все станет дороже.

**— И тем не менее согласитесь, такие крутые подъемы и падения говорят только о том, что с экономикой, а в частности с финансовыми делами, у нас крайне неблагополучно.**

— В статье совершенно правильно сказано, что курс этот зависит не только от политики Национального банка. Мы можем сделать курс, допустим, тысячу за доллар. Для этого должны набрать валюты, кредитов, бросить миллионы на биржу и сбить курс...

**— Но так и делают в цивилизованных странах.**

— Да, в Европе договорились о том, чтобы курсы валют "плавали" в строго определенных пределах. Если курс какой-то валюты приближается к верхней или нижней границе, то они ее поддерживают. Например, сегодня французский франк падает, а центральный банк Германии его поддерживает. Он скупает франки за счет своего резервного фонда. На поддержку франка Германия, кстати, израсходовала 90 миллиардов марок. Такой же процесс происходит сейчас при регулировании курса доллара и иены.

**— "Рыночные акулы", которые, казалось бы, должны только радоваться неудачам конкурентов, расходуют огромные средства на поддержку валют других стран. А наш Национальный банк спокойно смотрит, как "заваливают" собственные, можно сказать, деньги...**

— У нас ситуация сложнее. Помните, в мае—июне минувшего года курс доллара был около ста рублей. Тогда Центральный банк России делал интервенции, то есть выбрасывал на биржу средства из резервного фонда. Какое-то время курс доллара был стабильным. А инфляция по-прежнему ведь шла вверх! Когда интервенции прекратились, возможно, по причине истощения резервного фонда, курс доллара стал резко подниматься и за короткое время догнал по темпам роста инфляцию.

**— Понятно. У нас просто нет валюты даже для такой временной стабилизации?**

— Действительно, у государства практически нет валюты. Многие предприятия, это не секрет, прячут ее за рубежом. К сожалению, нет системы действенного контроля...

**— И все же каждому здравомыслящему человеку понятно, что подобные ситуации на валютной бирже еще больше усугубляют наше и так незавидное экономическое положение...**

— Конечно, полностью в ближайшее время стабилизировать валютный рынок мы не сможем. Но роль Национального банка заключается в том, чтобы предотвратить такие скачки. Чтобы какие-то дельцы, как было сказано в том интервью, не смогли в силу своих интересов менять курс. И мы над этим работаем.

Однако все должны понять, что курс рубля нельзя стабилизировать только усилиями Национального банка. Главное — это общее развитие экономики. В этом выход из ситуации.

*Культурная хроніка*

## Малдове спадабаліся нашы песні

**З вялікім поспехам выступілі на міжнародным фестывалі фальклору ў Малдове нашы землякі. Гонар прадстаўляць Рэспубліку Беларусь выпаў тром калектывам з Асіповіцкага раёна.**

У адной камандзе аказаліся народны ансамбль беларускай песні "Люлечка" раённага Дома народнай творчасці, народны фальклорны ансамбль "Вяселле" з вёскі Каўгары і сямейны ансамбль музыкантаў "Шамакі" з вёскі Дрычын.

У творчым спаборніцтве з калегамі з Францыі, Румыніі, Літвы, Украіны, Расіі і Малдовы беларусы атрымалі трэцяе месца, спецыяльны прыз і дыпломы. Цэлы тыдзень праходзілі канцэрты артыстаў Магілёўшчыны ў гарадах і вёсках дружалюбнай рэспублікі.

## І фестывалі восенню лічаць

**Калі пералічыць усе фестывалі, якія паявіліся ў Беларусі толькі ў апошнія гады, іх можа быць больш, чым літар у алфавіце. Але менавіта апошняя ў ім дала назву яшчэ аднаму новаму, прычым міжнароднаму тэатральнаму фестывалю. На гэты раз ён будзе прысвечаны выключна монаспектаклям.**

Як пастанавілі прэзідыум рады Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, калегія Міністэрства культуры рэспублікі, Мінгарвыканкам, Камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА і Савет асацыяцыі тэатраў-студый Беларусі, першы міжнародны фестываль монаспектакляў "Я" пройдзе ў Мінску з 22 па 25 кастрычніка гэтага года. Прагляды будуць арганізаваны ў гэтыя дні ў Дзяржаўным рускім драматычным тэатры, на малой сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры.

Арганізатары фестывалю маюць намер такім чынам садзейнічаць развіццю тэатральнага мастацтва, выяўленню яркіх акцёрскіх індывідуальнасцей, пошуку новых сцэнічных форм, папулярызацыі беларускага тэатральнага мастацтва. Чакаецца многа гасцей і ўдзельнікаў з-за мяжы.

**Белінфарм.**

